БАЧ
Беларускае альтэрнатыўнае чытанне

#2
Лістапад
1998 года



# ДЗЯДЫ І ДЗЕЦІ

**Маладыя вернуць свята у каляндар**

**У кастрычніку БНФ адзначаў сваё дзесяцігоддзе. Адным з цэнтральных мерапрыемстваў, якое праводзілася з нагоды гэтай даты, быў масавы пікет на месцы Дзядоў – 88 і, безумоўна, традыцыйнае шэсце ў Курапаты.**

Самі Дзяды дзесяцігадовай даўнасці маюць поўнае права на азначэнне "гістарычныя". Бо гэта адна з каардынатаў, ад якой можна адлічваць Навейшую гісторыю Беларусі. Дзяды сталіся падзеяй, якая зацікавіла, ускалыхнула грамадства. Пра яе сапраўды пачалі гаварыць як аб праяве менавіта свайго беларускага, палітычнага жыцця. Аказалася, і бульбашы не спяць у шапку, калі ва ўсім Саюзе робіцца шмат новага і адбываецца столькі ўсяго цікавага. З таго часу кожны беларускі дэмакрат мог абвесціць "Жыве БССР!"

...На святкаванне сёлетніх Дзядоў прыйшло не так многа моладзі. Але гэта і нармальна: усяму свой час. Ёсць розныя людзі і розныя пакаленні. Ёесць дзяды і ёсць дзеці. І тыя, хто 10 год таму ладзіў першае шэсце ў Курапаты таксама маюць дзяцей і нават ўнукаў. Адны - ў складзе Маладога Фронта, нехта ў іншых арганізацыях, некаторыя як бы і не "афармленыя". Але яны ёсць. Яны адчуваюць, ад іх шмат чаго залежыць. І таму маюць права на веру, на інтэлектуальны радыкалізм, права на тое, каб выйсці ў свой час на вуліцу і зрабіць усё, што магчыма і неабходна. Урэшце, хутчэй за ўсё менавіта яны ізноў вернуць "Дзядоў" у беларускі каляндар.

АЛЯКСЕЙ ШЭІН



*Ці стануць нашыя дзеці Праметэямі для Беларусі?*

# МАРА ІМПЕРАЛІСТА

**Карысныя парады**

**Відавочна, што ўлада страціла два магутныя рычагі маніпуляцыі грамадскай думкай: нацыянальную свядомасць і татальную ідэалогію.**

З самасвядомасцю народа пакуль што цяжка. Улада ў гэтым накірунку амаль што нічога не робіць, спадзеючыся на натуральнае вырашэнне гэтай праблемы. Але асіміляцыі беларусамі расейцаў чакаць прыйдзецца доўга. Трэба цераз частку прывіць цэлае. Праводзіць нацыянальную палітыку пад лозунгамі: "Беларусь у межах Вялікага Княства Літоўскага- да 2000 года", "Беларусь - у межах БССР" і "Не аддамо Беларусь расейскім імперыялістам! Беларусь - наш дом, Лукашэнка - бацька ў ём!".

Калі гэта атрымаецца, то людзі пачнуць думаць. На новым узроўні. Спачатку трэба даць ім нейкую апору. Няхай гэта будзе павага да Радзімы.

Накont ідэалогіі. Аптымальным варыянтам было б абвяшчэнне на Беларусі афіцыйнай рэлігіяй паганства. Але павінна існаваць першапачатковая хрысціянская гуманнасць. Яна будзе спалучацца са старажытнымі беларускімі вераваннямі. Дарэчы, ёсць выдатны шанец адрадзіць разам з паганствам аўтэнтычныя беларускія звычаі і традыцыі. Акрамя таго, патрэбная поўная адказнасць перад Богам. Напрыклад, за забруджванне ракі злачынца будзе пакараны яе духам праз яго святароў-валхвоў.

Калі гэтыя досыць авантурыстычныя прапановы будуць прынятыя да ўвагі, то існуючыя ў грамадстве настроі стануць больш дэмакратычнымі. Заклік да інстынктаў натоўпу так ці інакш выкарыстаюць - рэч толькі ў тым, хто гэта зробіць першым.

Каб аб'яднаць натоўп у народ, падыходзіць і імперыялізм. Два стагоддзі схілялі да зямлі адну шалю вагаў, і зусім натуральна, што яна павінна падняцца досыць высока, перш чым прыйсці да раўнавагі.

ГЛЕБ КАНУННІКАЎ

# СУЧАСНАЕ ПАКАЛЕННЕ ВЫБІРАЕ ЕЎРОПУ

**А не ідэолагаў "ад Рыгоравіча"**

**Толькі зараз усвядоміў усю падступнасць паўсюднай праваднои радыёфікацыі. Сіпата-пакрыўджаны голас з кухоннай радыёкропкі ператварае пасілак у пакутлівае спажыванне патэтычных сентэнцыяў.**

Актыўны лексікон сучаснай палітыкі стала запазычвае штампы з мінулага. Апеляцыі да гістарычнай памяці часоў Кіеўскай Русі, адвечнай славянскай еднасці, заўсёднай варажнечы з Захадам закліканы даць падставу для разнастайных фобіяў, што мусяць згуртаваць застрашаных вакол Збаўцы. Толькі ідэолагі ад Рыгоравіча не бяруць пад увагу сучасныя рэаліі. Чалавек нашых часоў больш схільны да эмпірычнага і утылітарнага ўспрыняцця свету.

Беспадстаўна-пачуццёвая канфрантацыя з кім-небудзь, інспіраваная адно толькі асабістай харызмай лідэра і не абумоўленая асабістай ангажаванасцю, для беларусаў увогуле не ўласцівая. Тым больш моладзь, разняволеная і ў значнай ступені менш закамплексаваная, чым папярэдняе пакаленне, давярае хутчэй асабістаму практычнаму досведу, чым прапагандыстам заплеснявелых ідэяў.

У часы зацятай антызаходняй істэрыі ўсё больш пераконваешся ў карысці міжнародных кантактаў. Як не імкнуцца "інжынеры чалавечых душаў" да інспірацыі негатыўных вобразаў, заходні сусед Беларусі бачыцца мне не ў выглядзе паноў-прыгнятальнікаў, рэлігійных фанатыкаў і фальклорных цівуноў-аканомаў. І справа не ў асабістых сімпатыях ці антыпатыях, суб'ектыўным успрыняцці чалавечай гасціннасці. Уласна дасведчыўшы "заходнюю" рэчаіснасць, атрымоўваеш засцерагальную вакцыну супраць разнастайных айчынных інсінуацыяў на тэму суседскіх падступных хітрыкаў. І нават не такімі істотнымі (хай даруюць мне выкладчыкі і складальнікі мерытарычнай часткі праграмаў адукацыйных семінараў) уяўляюцца атрыманыя веды і практычны вопыт журналісцкай працы ў параўнанні з надзвычай карысным і плённым вопытам чалавечых кантактаў і ўзаемнага супрацоўніцтва.

І таму ўсё больш і больш пераконваюся ў дарэмнасці высілкаў апалагетаў міжканфесійнай і міжнацыянальнай варажнечы. Мы выраслі ў іншыя часы і вызнаем іншыя ідэі. Сучаснае пакаленне выбірае шлях у Еўропу.

ПЯТРО РАГОЙША



*На абломках камунізму. Які герой, такія і кветкі*

НАША РЭЧАІСНАСЦЬ

# "НЕ!" НАРОДНАМУ ЗБЯДНЕННЮ

Акцыі пратэсту

**З - 4 лістапада ў Салігорску прайшлі мітынгі пратэсту працаўнікоў вытворчага аб'яднання "Беларуськалій". Першы арганізаваны прафсаюзным камітэтам хімікаў, другі – рэгіянальнай арганізацыяй Незалежнага прафсаюза гарнякоў.**

За апошія месяцы 1998 года жыццёвы ўзровень жыхароў Беларусі знізіўся ў два разы. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка і ўрад краіны вырашэнне цяжкага эканамічнага становішча ў чарговы раз пераклалі на плечы працаўнікоў, што выяўляецца ў хуткім росце цэн і зніжэнні рэальных даходаў грамадзян.

У такім становішчы вельмі хутка расце народнае абурэнне. Калі ў жніўні ў мітынгу пратэсту, які быў арганізаваны РА НПГ удзельнічалі некалькі соцень чалавек, то на апошнюю акцыю сказаць "Не!" жабрацкаму становішчу і абараніць свае інарэсы прыйшлі тысячы незадаволеных. Абодва мітынгі патрабавалі ад уладаў павелічэння пенсій, стыпендый і пасобіяй, павелічэнне заробку не менш як у два разы. Удзельнікі акцыі пратэсту патрабавалі таксама распрацаваць праграму выхаду Беларусі з эканамічнага крызісу.

Мабыць, ні ў воднай краіне свету няма такіх рабаўніцкіх падаткаў, як на Беларусі, дзе нават шахцёр прызнаны суперзаможным: да 50% заробленых грошай у яго забірае дзяржава. Таму мітынгуючыя патрабавалі, каб максімальны падатковы збор у нашай краіне не перабольшваў 20% ад гадавога заробку. У выпадку невыканання патрабаванняў працоўныя заклікаюць усіх жыхароў Салігорска прыпыніць працу на 2-2,5 гадзіны, падтрымаць прапанову Саюза рабочых Беларусі па стварэнні Рэспубліканскага стачкама і аб'явяць перадстрайкавае становішча. Гэтымі ж днямі прыватныя прадпрымальнікі арганізавалі страйк – не працавалі ні шапікі, ні рынкі. Сваёй акцыяй гандляры выражалі салідарнасць працоўным ВА "Беларуськалій" і падтрымлівалі пазіцыю прадпрымальнікаў Беларусі.

АЛА АМЯЛЬЧєНЯ,
ФОТА АЎТАРА







# У САЛІГОРСКУ ЖЫВЕ САБАКА, ЯКІ МОЖА РАЗМАЎЛЯЦЬ

**Цуды прыроды**

**Тое, што сабака чалавеку сябар, мы ведаем з дзяцінства. Але звычайна гэта маўклівы сябар. А вось трохгадовы баксёр Прынц, якога вы бачыце на здымку побач з салігарчанкай Алёнай Сахарэвіч, з'яўляецца выключэннем. Ён можа размаўляць.**

Праўда, ягоны лексікон небагаты і нават значна бяднейшы, чым у Элачкі-людаедкі. На ўсе выпадкі жыцця ў Прынца ёсць адзіная фраза: "мама". Асабліва ахвочым на словы сабака становіцца тады, калі яго гаспадары, сям'я Сахарэвічаў, збіраюцца на кухні. Хрыпатым басам ён шмат разоў паўтарае "мама", ці "ам-ам", пакуль не атрымае за гэта ўзнагароду - кавалачак чаго-небудзь смачнага.

Тое, што Прынц загаварыў, адбылося не само па сабе. На працягу чатырох ці пяці месяцаў Сахарэвічы амаль перад кожным сняданкам, абедам і вячэрай чапляліся да яго: " Прынц! Ну скажы, "мама". І вось нарэшце, калі ўжо ніхто не спадзяваўся штонебудзь пачуць. Прынц загаварыў...

АЛА АМЯЛЬЧєНЯ



# КУДЫ ІДЗЕШ, БЕЛАРУСЬ?

**Сумныя думкі**

**Гэты артыкул ёсць яшчэ адной спробай знайсці прычыну тых трагічных зменаў этнічнага характару беларусаў, што прывялі яго да сённяшніх вельмі сумных вынікаў. На погляд гісторыка-этнолага Л.М.Гумілёва, адбітак на паводзіны чалавека накладваюць тры фактары: геаграфічнае асяроддзе (звыклы для яго ландшафт), культурныя традыцыі (сукупнасць формаў чалавечай вытворчасці) і этнічнае акаленне (узаемаадносіны з суседзямі, што склаліся гістарычна). Гэтыя тры фактары і складаюць стэрэатып паводзінаў этнасу.**

Спрадвечны, спадчынны беларускі ландшафт знішчаны, збіёданы, зменены. Беларусь спрадвек звалі краінай лясоў, блакітнай краінай. Лясы ў нас яшчэ засталіся, але нішчацца як быццам свядома і знаходзяцца ў заняпалым, знясіленым стане.

Што ж датычыць блакітнага фону, дык архетып беларусаў - балоты - панішчаны 20-30 гадоў таму. У выніку зменены не проста ландшафт, але, натуральна, і клімат. Рэкі, часткова асушаныя, часткова спавернутыя ў "патрэбны" бок, балоты рашуча знішчаныя як непатрэбныя чалавеку глупствы прыроды.

Канешне, слова Чалавек павінна ж гучаць з гонарам. Толькі з гонарам за што? За ўласную дурасць? За імкненне загнаць самога сябе ў пастку? Каб у рэшце рэшт зразумець, што грошы нельга есці? Балоты, дарэчы, не пускалі да нас тыя ураганныя ветры, без якіх мы цяпер ужо і не ўяўляем свой клімат.

Але разам з тым "ахоўчым экранам", ролю якога доўгія часы выконвалі балоты, не магло не знішчыцца ў душы народа нешта тое важнае, што значыць наогул у этнічнай псіхалогіі паняцце архетыпа. А гэта - вельмі важна і вызначальна для лёсу нацыі. Калі парушаецца, нішчыцца тое, што спадарожнічала ёй напрацягу ўсёй гісторыі, то не можа нешта не зламацца, не парушыцца ў характары. Бо архетып - гэта, так бы мовіць, першаснова, на якой стаіць светапогляд. Разбурэнне гэтай першаасновы, падмурку, вобразна кажучы, не можа не адбіцца на самім будынку светаадчування. З-за змены ландшафту не магла не змяніцца і сістэма гаспадарання. Яе, сістэмы выпрацаванай, вызначанай, наогул сёння не маем.

Другі фактар - культурныя традыцыі, - зазнаў зменаў у сувязі з трэцім фактарам - этнічным асяроддзем. Беларусы далі сябе "заглынуць", русіфікаваць.

Малюнак не проста песімістычны - ён жахлівы.

Адзінай аптымістычнай нотай з'яўляецца тое, што, нягледзечы на ўсё гэта, беларускі этнас здолеў нарадзіць у сабе новыя парасткі, якія, магчыма, з цягам часу выцягнуцца, набяруцца моцы і закаласяцца буйным, здаровым жытам, што паглыне, схавае хворыя і знясіленыя.

Вельмі хацелася б забыцца на жорсткасць рэалій навакол і прыпомніць спрадвечную існасць казак усіх народаў свету - Дабро заўсёды пераможа Зло. Значыцца, сусветная мудрасць закладзена ў гэтым. Значыцца, трэба спадзявацца на слушнасць гэтай мудрасці.

ЮЛі ДРАНЧУК

# ДУХ СВЯТОГА АХОЎВАЕ САЛІГОРСКІХ ШАХЦЁРАЎ

**Мікола Цудатворца сустракае іх перад увахода̀м у клець**

**Мы прывыклі бачыць абразы ў царкве, радзей - - у хаце вернікаў. Але мала каму даводзілася бачыць абразы на фабрыках ці на заводах. Першым такім прадпрыем-ствам не толькі ў Салігорску, але, мабыць, і ва ўсёй Беларусі стаў другі руднік вытворчага аб'яднання "Беларуськалій".**

Амаль за саракагадовую гісторыю прадпрыемства на рудніках і фабрыках загінулі сотні чалавек. Не сакрэт, што большасць няшчасных выпадкаў звязана з уласнай няпільнасцю і безадказнасцю працаўнікоў. І тым не менш, гарняцкая праца не толькі цяжкая, але й небяспечная.

Каб засцерагчы шахцёраў ад няшчасных выпадкаў, на рудніку усталявалі абраз свяціцеля Міколы Цудатворца. Менавіта гэты святы дапамагае ўсім людзям, якія знаходзяцца ў сітуацыі, звязанай з рызыкай для жыцця. Гэта вандроўнікі, мараплаўцы, а таксама рудакопы.

Абраз знаходзіцца перад увахода̀м у клкцець, якая апускае людзей у шахту. Так што цяпер любы шахцёр перад тым, як спусціцца ў зямныя нетры, можа паглядзець на лік святога і звярнуцца да яго з просьбай дапамагчы ў цяжкую хвіліну.

АЛА АМЯЛЬЧєНЯ

НАША РЭЧАІСНАСЦЬ

# ДЗВЕ БОМБЫ КАЛЯ АЛТАРА

**Як разбурылі Фару Вітаўта і як хацелі знішчыць Фарны (Езуіцкі) касцёл**

Гэтую гісторыю распавяла Марыя Гратулевіч, якая з 1941 года даглядала Езуіцкі (Фарны) касцёл і была сведкай усіх падзеяў, што разгортваліся вакол яго.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны Горадня трапіла пад бамбаванне. Падчас аднога з налётаў два фугасы патрапілі ў будынак касцёла. Яны прабілі дах і ўпалі каля алтара. Дзіўна, але яны не разарваліся і пэўны час стаялі вертыкальна, ўваткнуўшыся ў падлогу. Імшу тады правілі ў бакавым алтары. Нямецкае начальства падчас аку пацыі ў касцёл не хадзіла, аднак набажэнствы не забараняла.

Пры савецкай ўладзе ксяндзы доўга не трымаліся на сваіх пасадах. Праз год-два яны вярталіся назад у Польшчу. Болей за ўсіх быў у Горадні святар, да якога хадзілі на полудзень афіцэры КДБ. Ён пражыў тут 13 гадоў і стараўся не канфліктаваць з уладамі – толькі такойт цаной яму ўдалося ўтрымаць касцёл.

У 50-ыя гады пачаліся арышты. Спадарыню Марыю выклікалі ў КДБ і прапанавалі "працу" – даносіць пра кожнае слова, што скажа святар. Яна адмовілася. Пасля гэтага ксёндз з'ехаў у Польшчу, наступны таксама. Дайшло да таго, што ў Горадні застаўся толькі адзін святар – у "Бернардынках", які не быў зацікаўлены ў тым, каб у Езуіцкім правіліся набажэнствы.



*Фара Вітаўта. Праз некалькі хвілінаў пасля выбуху*

У 1961-м улады "ўзяліся" за Фару Вітаўта. З Ленінграда прывезлі брыгаду вайскоўцаў і дзве тоны выбуховых рэчываў. На працягу месяца яны свідравалі ў падмурку храма дзіркі і закладалі ў іх ладунак. Такая складаная працэдура праводзілася адмыслова, каб знішчыць касцёл і не пашкодзіць навакольныя дамы. Выбух прагрымеў а палове на другую ўночы. Будынак асеў, а крыж, як быў, вертыкальна ўтыркнуўся ў зямлю. Раніцою прышло шмат людзей, якія бралі на памяць кавалачкі цэглы, што засталіся ад падмуркаў. Нейкі мінак укленчыў перад руінамі і сказаў: "Крыж застаўся стаяць. Што б бальшавікі ні рабілі – вера застанецца на гэтай зямлі..." Вялізную колькасць цэглы і ламачча прыбралі за два дні.

Наступным у разбуральных планах уладаў быў Езуіцкі касцёл. Але, дзякуючы намаганням касцельнага камітэта, начальства на пэўны час адмовілася ад гэтай ідэі. Але ў 80-я гады яны паставілі ультыматум: або здаць ключы, або распачаць рамонт сваімі высілкамі. Гэта быў папросту здзек. У касцела не было грошай, а трэба было заклацісць штогадовы падатак у памеры 600 рублёў. Акрамя гэтага, у будынку адключылі святло і перашкаджалі рабіць рамонт. Чыноўнікі не дазвалялі фарбаваць драўляныя скульптуры святых, якія ад бруду ўжо пачалі гніць. Маўляў, гэта помнік архітэктуры і тут патрэбныя спецыялісты. Дзеля выратавання помнікаў, таемна ад начальства прышлося намяшаць фарбаў, каб сумесь мела колер бруду.



*За ратаванне Фарнага касцёла Марыі Гратулевіч прайшлося правесці за кратамі 18 месяцаў*

Пасля скачэння рамонту, улады зноў пачалі ўмешвацца. На гэты раз яны прапанавалі зрабіць у касцёле канцэртную залу. З Менска прыехаў "упаўнаважаны", які разам з мясцовымі начальнікамі хадзіў па кватэрах самых актыўных парафіянаў, што адстойвалі храм, і шматзначна на нешта намякаў. Людзі зразумелі, што патрэбны хабар. За некалькі дзён яны сабралі пяцьсот рублёў. У дзень ад'езду менскага госця Марыя Гратулевіч разам з мужам павезла грошы на вакзал. Хутка паказаліся чыноўнікі, якія пасля добрага прыёму і пачастунку былі на падпітку. Марыя Рамуальдаўна незаўважна паклала грошы ў кішэню менскага начальніка. Той імгненна выхапіў пачак, патрос ім над галавой і пракрычаў: "Мне взятка!" Побач аказаўся міліцэйскі патруль. Марыю Гратулевіч забралі ў пастарунак. Імкненне выратаваць храм каштавала ёй трох гадоў лагеру ў Гомелі. Пазней за добрасумленную працу ёй скарацілі тэрмін зняволення да 18 месяцаў.

З 1988 ўлады дазволілі праводзіць імшу пяць разоў на год у галоўныя каталіцкія святы. Усе набажэнствы адпраўляў святар з Бернардынскага касцёла, а аблаткі прывозілі ажно з Вільні. Пазней імшу сталі праводзіць ужо раз на тыдзень. А ў Фарным касцёле дагэтуль не было свайго ксяндза. Калі ж па тэлефоне паскардзіліся ў Маскву, дык тагачасны начальнік па рэлігійных справах таварыш Даставалаў адказаў: "Вам же дали ксендза! Вы можете молиться хоть пять раз в день. Вопрос давно решен и на самых высоких уровнях. Залесский согласовал все в Минске и с гродненским руководством".

Напачатку 90-х справа наладзілася. У касцёле, дзе 28 гадоў не было святара, з'явіўся, нарэшце, свой ксёндз.

**ЗАНАТАВАЛА ІНГА АСТРАЎЦОВА**

# НОВЫ СТАРЫ ЦЭНТР

**Гісторыя і праекты**

**Пакуль наша незалежная рэспубліка імкнецца ў абдымкі паўднёвых і ўсходніх братоў, уся ўвага ейнага кіраўніцтва сканцэнтравана на тое, каб стаць цэнтрам Саюза Славянскіх Рэспублік (ССР). Але каб быць цэнтрам, ці хаця б прэтэндаваць на гэтую ролю, трэба прыстойна выглядаць.**

Таму шпаркімі тэмпамі ў Мінску ідзе будаўніцтва новага чыгуначнага вакзала, а ў самым цэнтры горада дабудоўваецца яшчэ з савецкіх часоў гмах Палаца Рэспублікі. Гэта, напэўна, не навіна для мінчукоў і іхных суграмадзянаў па РБ, але Палац Рэспублікі займае месца, наварта змяніць ўвагай.

Да другой сусветнай вайны на сучаснай Цэнтральнай плошчы змесціліся пабудовы былога Дамініканскага кляштара, касцёл якога стаяў на рагу цяперашніх вуліцаў Энгельса і Інтэрнацыянальнай, а таксама прылеглыя да яго камяніцы. Па вайне, у выніку гэтак званай сацыялістычнай рэканструкцыі сталіцы, старасвецкія пабудовы ўлучна з касцёлам былі знесены, а на іх месцы ўтварыўся вялізны пляц. На тым пляцы пазней з'явіўся, а потым знік помнік Сталіну. А як яго не стала, то гэта была пустая мясціна, на якой неўзабаве сталі узводзіць Палац Рэспублікі. З узводзінамі "саркафага", як яго назвалі ў народзе, пачалася новая эпоха ў мінскім дойлідстве, якую можна вызначыць як неаканструктывізм. З пабудовай вялікага гмаху побач з ЦК назаўжды развеяліся планы па аднаўленні старога Дамініканскага кляштара як часткі Верхняга горада. Некаторыя нават шкадуюць, што калісь знеслі манумент Сталіну, аднаўляць яго, безумоўна, было б абсурдна, але як-ніяк гістарычны помнік. Шкада.

Палац Рэспублікі стаўся сімвалам рэжыму, што усталяваўся ў Беларусі напрыканцы дваццатага стагоддзя. Бясскрыўдны будынак, што сваімі простымі і стромымі лініямі нагадвае формы Дома ўраду на плошчы Незалежнасці, стаўся канцавым пунктам у гісторыі менскай архітэктуры гэтага стагоддзя. Аблічча Мінска пачатку гэтага стагоддзя будзе вызначацца Чырвоным касцёлам на Плошчы Незалежнасці, аблічча сучаснага нам сталіцы атаясамляецца з Палацам.

У гэтым стагоддзі Мінск, акрамя шматлікіх разбурэнняў, спазнаў чатыры пераносы з аднога на другое месца свайго адміністрацыйнага цэнтра. Спачатку, у 30-х гадах, пасля заканчэння будаўніцтва Дома ўрада, з плошчы Свабоды цэнтр перамясціўся на сённяшнюю плошчу Незалежнасці. За нямецкай акупацыяй ён апынуўся на старым месцы. Пасля вайны усе савецкія ўстановы пераехалі на свaa ранейшае месца, у цудам ацалелы мінскі Белы дом. І вось зараз цэнтр рэальнай улады ізноў перамяшчаецца да колішняга Верхняга рынка – на Цэнтральную плошчу. Цяпер яшчэ і "саркафаг" дабудуюць, і, як гэта ні дзіўна, будзе аднаўлена гістарычная справядлівасць. Перамяшчэнне адміністрацыйнага цэнтра Мінска ўсутыч да гістарычнага варта разглядаць не толькі як выпадковасць, але таксама як перадумову фармавання новага аблічча горада.

Плошча Незалежнасці, нягледзячы на ейную архітэктурную дасканаласць і сталічную манументальнасць, усё ж не пасуе да таго, каб быць "сэрцам" Беларусі. Што да Цэнтральнай плошчы – то гэта найлепшае месца з гледзішча прэзентацыі Беларускай дзяржавы. Барокавыя вежачкі бажніцаў і стромыя дахі мураванак за Палацам Рэспублікі найлепей адлюстроўваюць аблічча новай Беларусі – краіз глыбокімі традыцыямі і культурнай спадчынай і адначасова сучаснай еўрапейскай краіны.

І хоць час зараз працуе не на нас, не варта з-за гэтага расчароўвацца. Не варта шукаць месца для беларускай Астаны ці то ў Наваградку, ці то ў Горадні. Мінск нічым не горшы, а нават найболыш прыдатны да таго, каб быць сталіцай Беларусі. Гэта ўжо воля музы Кліо, што ў Мінску, а не дзе яшчэ была абвешчана 25 сакавіка 1918 года першая Беларуская Рэспубліка. Нават зараз, калі сталічны статус горада стаіць пад вялікім пытаннем у сувязі з чарговымі спробамі ператварыць Беларусь у правінцыю новай "славянскай" імперыі, горад ёсць і застанецца цэнтрам Беларусі, і не толькі палітычным і эканамічным, але і культурным. Бо толькі цэнтр здольны інтэграваць заходнія і ўсходнія ўплывы ў беларускую культуру. Мінск – не еўрапейская Горадня і не савецкі Магілёў, ён здольны адабраць і сінтэзаваць лепшае з усяго, што ёсць. Сінтэзам лепшага мог стаць перанос цэнтра Мінска да Палаца Рэспублікі і Верхняга горада. Традыцыі і сучаснасць нарэшце спалучацца ў гэтым горадзе. Магчыма ў гэтым месцы будзе сфармуляваная ідэя новага Мінска, сапраўды беларускага горада.

Усё вяртаецца на свае месцы. За пасляваенныя гады сталіцы вырасла на касцях. Ягоны цэнтр – плошча Леніна – быў збудаваны на месцы старых жыдоўскіх кладаў. Новы стары цэнтр не мог паўстаць на чытых месцы, але ён з'явіўся не на могілках. Калі толькі "саркафаг" не стане нечыей магілай.

**ВІКТАР МУХІН**

## ЦІ ХУТКА КАНЕЦ СВЕТУ?









# СЛУЖЫЦЬ ЦІ НЕ СЛУЖЫЦЬ – ГЭТА НЕ ПЫТАННЕ

**Інтэрв'ю з "ухільнікам"**

**Служба ў войску ўжо даўно ўспрымаецца нашай моладдзю не як ганаровы абавязак, а як несправядлівае пакаранне за дасягненне васемнаццацігадовага веку. Каму ж ахвота мяняць зручныя красоўкі на цяжкія кірзавыя боты і змушаць сябе ледзь не да турэмнага ладу жыцця. Мабыць таму вяснова-восеньскія прызывы для працаўнікоў ваенкамата нагадваюць гульні ў казакі-разбойнікі. Сёння ў салігорскай пракуратуры разглядаецца сем асабовых справаў, якія тычацца ўхілення ад вайсковага абавязку. Гэта азначае, што сямі салігорскім хлапцам пагражае турэмнае зняволенне тэрмінам да трох гадоў. Ці варта так рызыкаваць? Тым болей, што на працягу многіх пакаленняў вайсковая служба лічылася своеасаблівай школай для мужчын, якую павінен быў прайсці кожны юнак.**

Наша карэспандэнтка сустрэлася і пагутарыла з адным з такіх "ухільнікаў". Яго справа ўжо на працягу пяці гадоў знаходзіцца ў пракуратуры.

*- Сеня, як атрымалася, што ты не пайшоў у войска?*

- Калі мае бацькі былі маладыя, хлопца, які не ішоў служыць, лічылі непаўнавартасным. Дзяўчаты не хацелі з ім звязвацца і наагул трымалі яго проста ненармальным. Абаронца Айчыны, вайсковы абавязак - ха-ха. Усё гэта зараз успрымаецца іранічна. Мяне не пужалі нейкія там армейскія цяжкасці. Папросту я вырас у такі час, калі было модна не ісці ў армію, каб застацца нармальным чалавекам - так меркаваў шмат хто з маіх знаёмых - трэба адмазвацца ад службы любымі сродкамі.

*- І якi ж сродак ты абраў?*

- Я проста ігнараваў усялякія запыты з ваенкамата. Ірваў павесткі, не адказваў на тэлефанаванні. Калі дахаты прыходзіў нехта незнаёмы, дык бацькі казалі, што мяне няма дома, што я з'ехаў некуды далёка і надоўга.

*- Наагул, як адрэагавалі бацькі на тваё нежаданне ісці ў войска?*

- Натуральна, адмоўна. Яны ж людзі старой закалкі. Нават не ўяўляюць сабе, як гэта можна не ісці служыць. Але мінуў год, другі. Звыкліся, змірыліся. Здаецца, хлопец не благі, у міліцыю не трапляе, дадому п'яны не прыходзіць. Хай жыве, як хоча. Дарослы ўжо. Дваццаць пяць гадоў стукнула. Дый як тут не звыкнешся, з часу першай павесткі ўжо каля шасці гадоў прайшло.

*-Чым ты займаўся ўвесь гэты час?*

- Як толькі атрымаў дыплом, адразу сабраў рэчы і з'ехаў у Піцер. Мне хацелася пажыць аднаму, паглядзець, на што я варты, ці змагу выжыць адзін у чужым свеце. У адной з піцерскіх ВНУ вучыўся мой школьны сябар. Напачатку я жыў у яго ў інтэрнаце. Потым знайшоў працу і зняў кватэру. Увесь вольны час я бавіў у музеях, галерэях, у кіно ці на выставах. Блукаў па маляўнічых мясцінах Піцера, знаёміўся з рознымі цікавымі людзьмі.

*- А якая гэта была праца?*

- Спачатку я працаваў прадаўцом у камерцыйным павільёне.Там прадавалі цыгарэты, алкаголь. Потым стаў экспедытарам - развозіў тавар, вёў бухгалтарскі улік. Неяк незаўважна пасябраваў са сваім босам. Ён дапамог мне распачаць сваю справу і ўзяў пад "крышу". Мне здавалася, што маё жыццё наладзілася. У мяне была свая справа, добры заробак і побач з мною быў надзейны чалавек. Але ў мяне з'явіўся сябар з Анголы. Ягоны бацька ваяваў недзе ў Афрыцы, можа, і зараз ваюе. Штомесяц ён высылаў сыну каля пяці тысячаў грынаў (даляраў - аўт.). Мы папросту не ведалі, куды траціць гэтыя грошы. Пачалі бавіцца траўкай. І гэтак пайшло, паехала і зацягнула. За тыдзень мы спускалі столькі, колькі я зарабляў за месяц. "Навошта мне губляць столькі сілы і часу на працу, калі грошы проста так цякуць да мяне!" - увесь час круцілася ў маёй адуранай галаве. І я закінуў сваю справу. Карацей, уся мая бяда была у гэтай брыдоце. Але, дзякуй Богу, я здолеў своечасова спыніцца. Зараз я не палю нават простых цыгарэтаў.

Так мінуў год маіх піцерскіх прыгодаў. Я вярнуўся на сваю бацькаўшчыну, у Салігорск. Адпачыў ад мегаполісу, разгрузіўся ад яркіх уражанняў, пераасэнсаваў сваё жыццё і зразумеў, што трэба ведаць меру. Тым больш, што я бачыў зламаных людзей. Іх настолькі моцна засмактала ў багну, што яны не здолелі ўжо адтуль выпаўзці. Праз некалькі месяцаў я зноў паехаў у Пецярбург. Знайшоў працу. У Салігорск прыязджаю прыкладна раз на год. У нас тут ціхае спакойнае жыццё, без гонкі. Ведаеш, мне тут добра адпачываецца.

*- Сямён, давай вернемся да размовы пра службу ў войску. Тваё рашэнне не служыць моцна перашкаджае табе ў жыцці?*

- Так, так і яшчэ раз так. Перашкаджае, яшчэ як перашкаджае! Калі б я мог вярнуць час назад, то па першай позве з'явіўся б у ваенкамат, адслужыў, як трэба - год і восем месяцаў, і жыў бы вольна, і спаў спакойна. Без войска, дакладней, без ваеннага білета, ты не чалавек. Без гэтага дакумента я не магу атрымаць правы на машыну, аформіць замежны пашпарт і нават ажаніцца - не магу. Я ўжо не кажу пра тое, што без ваеннага білета я не магу застацца жыць у родным горадзе і тут знайсці працу ці адкрыць сваю справу. Я неяк прыйшоў у паліклініку. У мяне папрасілі дакументы. Аднаго пашпарта ім падалося мала. На адказ, што ваенны білет я не маю і без усялякіх падставаў не служыў у арміі, вочы жанчыны ў белым халаце павялічыліся мо ў тры разы, а на твары чыталася: "Адкуль ты такі з'явіўся?! Хіба што з неба зваліўся".

Дарэчы, пасля некалькіх гадоў жыцця ў Піцеры я, нарэшце, зразумеў: усё адно, дзе ты жывеш - ці ў заняпалым правінцыйным горадзе, ці ў мегаполісе, дзе жыццё кіпіць. Просты постсавецкі чалавек - усюды "нішто". Таму я вырашыў зваліць "туды". Многія мае сябры з'ехалі за мяжу. Тэлефануюць , клічуць мяне: "Чаму ты там сядзіш? Прыязджай". Але пакуль гэта немагчыма, зноў жа, з той прычыны, што я не адслужыў "на благо Родины", што не ўсё як след з маімі дакументамі. Атрымалася, што я сам сябе загнаў у кут. Супакойвае толькі тое, што да 27 год мне засталося ўсяго толькі два гады. Але я не ўпэўнены , што нават тады мне не скажуць:"А дзе ты быў увесь гэты час?" І трэба будзе даць адказ. Так што рызыка трапіць за калючы дрот застанецца.

*- Сеня, ці былі ў цябе нейкія недарэчныя сустрэчы з міліцыянтамі ці супрацоўнікамі ваенкамата?*

- Адзін такі выпадак быў. Якраз на пэўны час я прыехаў у Салігорск. Падчас майго чарговага прыезду прыйшлі нечаканыя госці з ваенкамату. Праз прыадчыненыя дзверы я пачуў, што яны цікавяцца, ці не з'явіўся ўцякач. Я крыху спужаўся і схаваўся ў прыбіральні. Мне вельмі пашэнціла, што яны не пачалі абшукваць кватэру. Не раз здаралася так, што прыязджалі ўначы і рабілі вобшук. Аглядалі ўсе пакоі, не забываючыся паглядзець і пад ложкам, і на балконе. Гэта вельмі агідна і зняважліва - сядзець у прыбіральні і чакаць – ці знойдуць цябе, ці не.

*- Твае аднагодкі ўжо даўно адслужылі і вярнуліся дадому. Некаторыя з прычыны стану здароўя ці з-за нейкіх іншых акалічнасцяў у войска не трапілі. Ты можаш параўнаць адных і другіх і сказаць, што дае маладому хлапцу служба ў арміі?*

- Я лічу, што нашае войска наагул нічога не дае . Можа крыху фізічнай падрыхтоўкі. Армія не церпіць асобаў. Ёй усе адно хто ты, філосаф, музыка ці наркаман. Яна прасуе ўсіх, усіх тварам у бруд, усіх у адзін статак. І ты ўжо "ніхто", ты проста адна частка вялікага статку. І самае галоўнае, там жа не вучаць ваяваць. Выключэннем з'яўляюцца толькі асобныя войскі, спецпадраздзяленні. Я не згодзен з такім меркаваннем , што армія выпраўляе тых хлапцоў , якія п'юць, колюцца. Некаторыя мае аднакашнікі вярнуліся са службы і па ранейшаму, калі не больш, працягваюць піць, глытаць колы. Нават у войску яны не пакідалі гэтае справы. Я мяркую, што калі чалавек не ўсведамляе сябе Чалавекам, Асобай, то яму ніякая сістэма не дапаможа. А дужы чалавек выратуе сябе сам. На маю думку, беларусам наагул не патрэбнае такое вялікае войска, якое існуе зараз. Аптымальны варыянт для Беларусі - укласці ўсе грошы, якія яна траціць на войска, у невялікую нацыянальную гвардыю. Каб у яе ўваходзілі памежныя войскі і некалькі выдатных вайсковых спецпадраздзяленняў. Дадаць яшчэ рэфармаваную міліцыю, укамплектаваную верталётамі, кампутарамі і іншай тэхнікай.

*- Сямён, што ў тваім уяўленні значыць сапраўдны мужчына?*

- Сапраўдны мужчына - нешта тоеснае са словам воін, абаронца. Да таго ж я не звязваю гэтыя паняцці з салдатамі тэрміновай службы. У нашым войску воінаў мала, там у асноўным ваякі. Сапраўдны мужчына можа аберагчы сябе і сваю сям'ю ад сацыяльных і маральных удараў і, натуральна, ад хуліганаў на вуліцы.

Сапраўдны мужчына - гэта перш за ўсё моцная асоба, моцны дух. З гэтай нагоды мне хочацца прыгадаць прыпавесць, што

(Працяг на ст. 5)

# ДЗЕЛЯ ПЛАНУ ЎСЕ СРОДКІ ДОБРЫЯ

**Літара закона**

**Апошнім часам складаецца ўражанне, што дзейнасць беларускай міліцыі сканцэнтраваны ў двух накірунках. Першы - працягваецца барацьба з тымі дзівакамі, што лічаць нармальным выказваць на мітынгах і шэсцях свае думкі наконт існуючай улады і ўмоваў жыцця. Другі, перафразуючы выраз Кенэдзі, не лічыце грошы, што павінная вам дзяржава, лепш падумайце, колькі яшчэ павінны ёй вы.**

Рэч у тым, што грамадзянам, якія спрабуюць памяняць адкладзеныя з велізарнымі цяжкасцямі "зайчыкі" на больш надзейныя даляры, ці наадва-рот, прыходзіцца несалодка. Адзінае, што дазваляе дзяржава, - наведаць абменныя пункты. Аднак афіцыйны курс у тры разы меншы, чым на чорным рынку. Усё гэта даўно вядома. Але метады, якімі праваахоўныя органы выконваюць і перавыконваюць план па "забароненых валютных аперацыях", становяцца падобнымі да сродкаў іх дзеянняў продкаў з НКВД.

Напрыклад, "вылічыўшы" адрэсу аднаго з валютчыкаў, яны патрапілі на сапраўдную "залатую жылу". Зрабіўшы засаду па ўсіх правілах жанру, яны атрымалі добрую здабычу. Але сродкі, якімі яны карысталіся дзеля лепшага "улову", былі вельмі цікавыя. Большасць з наведвальнікаў валютчыка Косці сапраўды прыходзілі, каб памяняць грошы. Схема працы міліцыянтаў была простая. Калі нехта званіў у дзверы, ім адчыняў адзін з аператыўнікаў і запытваўся: "Вы грошы мяняць?" Той у адказ цікавіўся, дзе гаспадар. Нікога чамусьці не здзіўляў незнаёмы твар "сябра Косці", і ўсе бралі на веру адказ кшталту "я за яго". Залішняя даверлівасць іх і загубіла. Але акрамя кліентаў у сеткі абаронцаў літары закона траплялі людзі выпадковыя.

Адмоўны адказ на прапанову памяняць грошы міліцыянты не разумелі. (Гэта, дарэчы, сапраўды дзівацтва нейкае ў сённяшніх умовах). І са словам "не" змірыцца яны не маглі. Таму з пакоя выскокваў другі пераапрануты міліцыянер і настойліва прапаноўваў прадаць яму валюту знoўку. Але хлопец ніяк не "вёўся" на спакуслівыя прапановы і жаданне меў адзінае – пабачыць Косцю. Міліцыянты часова згадзіліся з паразай і дазволілі пачакаць небараку ў пакоі. Даволі хутка ён зразумеў, што адбываецца. Па нейкіх прычынах ён вырашыў, што мае права абурацца і выказваць свае думкі на гэты конт. Міліцыя, натуральна, лічыла кардынальна інакш. У выніку сваіх неабдуманых дзеянняў у эмацыйным узрушанні хлопец быў абшуканы. У хлопца была знойдзеная валюта і ён быў абвінавачаны ў тым жа, што і ўсе кліенты. Не выносяць нашыя міліцыянты слова "не".

Таксама вельмі кранальна выглядала пільнасць служкаў закону ў дачыненні да хлопцаў, што стаялі побач з пад'ездам, дзе адбываліся апісаныя падзеі. Хлопцы размаўлялі. Звычайны чалавек, напэўна, не звярнуў бы ўвагу на іх размову. Але не міліцыянты. Апошнім падалося, што адзін з іх агітуе другога зайсці ў гэты пад'езд і памяняць валюту. Незаконна. Вось гэта і называюць вышэйшага гатунку прафесіяналізмам. Калі інтуіцыя падказвае, што, здаецца, там нехта да нечага заахвочвае незаконнага.

Вынікі дня працы былі наступнымі –складзены пратаколы на 40 чалавек. Згодна Дэкрэты Прэзідэнта, частка парушальнікаў была прыцягнута да адказнасці за незаконныя аперацыі з валютай, іншыя – за дачапленні да грамадзян з мэтай здзейсніць незаконныя аперацыі. Першыя атрымалі штрафы ў памеры ад 50 мінімальных заробкаў і вышэй, другія – у памеры ад 35 "мінімалак". Натуральна, з канфіскацыяй знойдзеных у іх грошай. Цікавай падрабязнасцю з'яўлялася тое, што некаторыя з парушальнікаў сцвярджалі, што грошай у іх было крыху больш за пазначаную ў пратаколе суму. На пару тысячаў даляраў, напрыклад. Але з цяжкасцю верыцца ў тое, што наша міліцыя спакусіцца на такія дробязі.

Справы былі зачыненыя ў дачыненні толькі 7 чалавек.

І на гэтым вялікі дзякуй. Раней цяжка было разлічваць нават на такі вынік.

**ЛАРЫСА АТАМАН**

## ЯШЧЭ НЕ ЗАРАЗ...











*(Пачатак на ст. 4)*

дайшла да нас з часоў Антычнасці. У Спарту прыехалі заморскія госці і былі вельмі здзіўленыя тым, што ў горадзе няма абарончых муроў. На здзіўленыя выклікі і пытанні старыя адказалі: «Лепшыя сцены - гэта нашыя дзеці, нашыя ваяры». Дык вось і я лічу, што калі няма сапраўдных мужчын, ваяроў, то ніякія муры не дапамогуць. І войска не дапаможа, не выхавае абаронца, калі яго не выхавалі бацькі і грамадства.

- *Сямён, што б ты параіў хлапцам, якія вось-вось павінны атрымаць павестку?*

- Не паўтараць маёй памылкі. Зрабіць які-небудзь дакумент, згодна з якім можна не служыць у войску. Калі гэта не атрымоўваецца, то па першай жа павестцы зьявіцца ў ваенкамат, адслужыць як трэба і вярнуцца, каб жыць спакойна, не палохаючыся кожнага званка і не хавацца ў ванны пакой, калі ў госці зайшоў незнаёмы чалавек.

**ГУТАРЫЛА АЛА АМЇЛЬчэнј**

# ТРЭЦІ СЕКТАР НА БЕЛАРУСІ - АДЗІНАЯ НАДЗЕЯ

**Грамадзянскія ініцыятывы**

**Пасля паспяховасць палітычных і эканамічных трансфармацыяў, што адбываюцца на Беларусі на працягу апошняга дзесяцігоддзя, абумоўленая паўнавартасным развіццём усіх інстытутаў дэмакратычнага грамадства. Адным з такіх інстытутаў з'яўляецца "трэці сектар", альбо, кажучы іншымі словамі, неўрадавыя грамадскія арганізацыі.**

З сусветнага вопыту добра вядома, што менавіта ў NGO найбольш эфектыўна рэалізуюцца грамадзянскія ініцыятывы. Разнастайныя аб'яднанні, фонды, асацыяцыі здольныя вырашаць грамадскія праблемы аператыўна і больш якасна, чым дзяржаўныя органы. Таму ў многіх краінах некамерцыйныя грамадскія арганізацыі маюць вялікі аўтарытэт і ўплываюць, а іх дзейнасць фінансуецца дзяржавай і бізнесовымі структурамі.

У нашых умовах цяжка разлічваць на прыязнасць дзяржавы да непадкантрольных ёй структураў. І тым больш прыемна, калі даведваешся пра чарговыя грамадскія ініцыятывы у розных сферах.

Нядаўна мне давялося прысутнічаць на семінары "Эфектыўнае развіццё грамадскай арганізацыі", што праводзіла для сваіх сяброў Асацыяцыя Настаўнікаў "Адукацыйныя Інавацыі". Як распавяла мне Старшыня Асацыяцыі Наталля Краўцова, гэтая грамадская арганізацыя аб'ядноўвае настаўнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ і мае на мэце падтрымку рэформаў у галіне адукацыі. Асаблівую ўвагу пры гэтым Асацыяцыя надае грамадзянскай адукацыі настаўнікаў і вучняў. Семінар быў першым мерапрыемствам нававторанага настаўніцкага аб'яднання, аднак, беручы пад увагу вялікую зацікаўленасць прысутных, напэўна, атрымаецца ўдалым. Заняткі праводзіліся з выкарыстаннем сучасных інтэрактыўных метадаў навучання, што значна павысіла іх эфектыўнасць.

Верыцца, што калі пры ўсіх цяжкасцях грамадзянская ініцыятыва ўсё ж паўстае і развіваецца, зварот да мінулага ў Беларусі немагчымы.

**ПЯТРО РАГОЙША.**

# ТЫ ІДЗЕШ ПА ВАДЗЕ, ЦІ НАД ВАДОЮ?

**Літаратурная рэцэнзія**

**Вальжына Морт "Конскія вочы" Менск,"Бумбамлёт" 1997.**

Традыцыя мініяцюрных кніжак "друкапісаў", як ні дзіўна, працягваецца. Сябра Бум-Бам-Літу (ББЛ) Вальжына Морт стала аўтарам чарговай "міжлітаратурнай" з'явы. Здаецца, гэта ці не адзіны выпадак, калі ў друкапісе малюнкі і тэксты стваралі розныя аўтары. Так, мастацкае аздабленне кніжкі выканала Юля Рудзіцкая.

Выяўленчае і літаратурнае мастацтвы гарманічна спалучаюцца: калі ўважліва ўглядзецца ў малюнкі, можна прачытаць тоесны твор, а старанна "пераварыўшы" тэкст, можна "ўбачыць" падобную, у самым добрым сэнсе слова, выкшталцоную ў лініі, але небяспечна плюральную візуальную вычварнасць.

Варта адзначыць, што ББЛ наогул робіцца ўсё больш прафесіяналізаваным. Так, да апошняга зборніка прыклалі руку ўжо мінімум пяць чалавек. Паводле выдавецкіх звестак кніжка была "Здадзена ў перапіс у мінулым стагоддзі", мае "адпаведны фармат" і "конскую гарнітуру". Апошняе - выключны выпадак: конскай гарнітуры, здаецца, яшчэ не меў не толькі ніводзін друкапіс, але і наогул ніводная з вядомых кніг.

У зборнік уключаны шэсць свабодных вершаў(«Краты», «Дарэмнасць», «Пагоня», «Кажаны», «Сон Дрывасека», «Вогнішча з вачэй конскіх»). Першае ўражанне ад тэкстаў -- экспрэсія, спалучэнне неспалучальнага, імкненне выклікаць у чытача агіду. Тут выяўляецца здаровая некрафілія, што распаўсюджваецца не толькі на жывыя арганізмы, але і на розныя аспекты быцця.

Стылёва творы нагадваюць тэксты Іллі Сіна. Пэўна. Але ў Морт адчуваецца большая нагрузка на вобраз, у той час як у Сіна дамінуе стыль. Наогул, можна казаць пра выкшталцонае літаратурнае хуліганства, канцэптуальную чарнуху і прыгожы антыэстэтызм. Калі аўтар піша ў такім стылі, ён мае шанец не знайсці паразумення ні ў кога, акрамя сяброў па няшчасці, а таксама небяспеку зрабіць сапраўды моцныя мастацкія адкрыцці, якія прымусяць "прыбрызнуць слёзы з халодных каменняў".

Аналізаваць такія тэксты вельмі цяжка, бо ў любым выпадку ўспрыняцце будзе максімальна суб'ектыўным і, хутчэй за ўсё, некарэктным. Можна толькі вычытаць і назваць пэўныя аспекты і сувязі.

Першы верш цікава чытаць, закрыўшы назву:

*Сляпыя мастакі варушацца ў норах*
*Іх кіпці скуголяць ад пяску і навозу*
*Цалуюцца чуллівымі вуснамі*
*З мокрымі прызрыстымі чарвякамі...*

Сапраўды, тэкст непажадана чытаць перад ядой. Здаецца, што гэта здзек з "творчай інтэлігенцыяй" і зняважлівая адзнака мастацтва, прычым не толькі дэструктыўная, але і алагічная. Калі адкрываеш назву і бачыш, што гаворка ідзе пра кратоў, то ўзнікае адваротнае пачуццё. Бо сляпая істота дзякуючы вершу набывае новы статус: няхай зняважанага і гаротнага, але мастака. Уласна для мяне крата назваць мастаком эстэтычна не менш актуальна, чым, напрыклад, параўнаць з кратам народ. І звярну ўвагу на яшчэ адну акалічнасць: першы і апошні радок верша як бы кальцуюць змест і робяць наяўным мастацкае адкрыццё, якое можна параўнаць з матэматычным вынікам:

Сляпыя мастакі варушацца у норах..,

Нябачна варушацца падземныя норы.

У выніку падзеяў, якія адбываюцца ў тэксце, біялагічная адзінка ператвараецца ў прасторавую - арганізм становіцца лабірынтам. Узаемасувязі і супастаўленні ў зборніку ўвесь час прасочваюцца і прымушаюць адмовіцца ад вонкавай неартыкуляванасці і выпадковасці тэкстаў. Так, у вершы "Дарэмнасць" расповед ідзе ад першай асобы, дзе з розных элементаў і намёкаў можна скласці вобраз, асобу лірычнага героя... не варта казаць уголас, якога канкрэтна, але такі прыём варта назваць фларызальяй суб'екта. А верш "Пагоня", па форме маналог, прымушае да сябе звяртацца зноў і зноў:

І ніхто з уваскрэслых не зразумее

Ты ідзеш па вадзе ці над вадою.

Невялікі аб'ём зборніка кампенсуецца сканцэнтраванай вобразнасцю і схаваным канструктывізмам у пабудове твора, калі фактычна кожны новы радок змяняе і развівае сюжэт, пераўтварае вобразны краявід.

Ёсць, праўда, адзін нюанс. Самы галоўны вобраз, паводле якога быццам і названая кніжка – «Конскія вочы» і (адпаведна верш "Вогнішча з вачэй конскіх"), асабіста мне не зразумелы. Можа, так і павінна быць, калі заўсёды прысутнічае недавыказанасць ці недаразумеласць, мройлівая прастора, якая дае спадзяванне на дапісванне і на дачытванне.

# ЗАБІ ЗМЕЯ — І ПАБУДУЙ ГОРАД

**Роля фальклору ў структурызацыі этнічнай прасторы**




**Бадай, ні ў кога зараз няма сумненняў, што беларуская фальклорная традыцыя змяшчае ў сабе вялікую колькасць старажытных уяўленняў, якія захаваліся з часоў далёкіх продкаў сучасных індаеўрапейцаў.**

Прычыны гэтаму акрэсліў яшчэ Адам Міцкевіч, калі хваля рамантызму вынесла народную творчасць у цэнтр агульнай увагі. Паэт зазначаў, што спрадвечнае знаходжанне беларусаў на памежжы балцкай, заходняй і ўсходняй культурных традыцыяў забяспечыла беларускай культуры адносную самастойнасць і ўстойлівасць да чужых уплываў. Сапраўды, беларускі фальклор выбіваецца з агульнага шэрагу. Па-першае, сваёй надзвычайнай разнастайнасцю і, па-другое, шматлікімі старажытнымі рысамі, якія прадстаўленыя і ў іншых, але не так паслядоўна і выразна.

Прыкладу – матыў змагання са змеем, які існуе ў міфалогіях такіх аддаленых у прасторы і часе народаў, як старажытныя егіпцяне, шумеры, амерыканскія індзейцы, аўстралійскія абарыгены і, вядома, індаеўрапейцы. Адметнасць універсальных матываў і вобразаў палягае ў выключнасці іх ролі пры стварэнні канкрэтнай нацыянальнай традыцыі і этнапсіхалогіі народаў-стваральнікаў.

Найстаражытнейшым пісьмова зафіксаваным помнікам індаеўрапейскай культуры з'яўляюцца "Веды" – сакральныя тэксты, створаныя паводле меркавання большасці даследчыкаў на мяжы II і I тысячагоддзяў да н.э. Параўнанне беларускага матэрыялу з тэкстамі "Рыгведы" (веды гімнаў, найстарэйшай часткі Ведаў) дае нечаканыя паралелі і новую кропку адліку ў навуковых росшуках.

Адзін такі тэкст – паданне пра паходжанне берасцейскіх г.Маларыта і в.Велікарыта – цікавы якраз у сувязі з ведыйскім асноўным міфам пра перамогу бога навальніцы і вайны Індры над змеем Урытрай. Сюжэт падання зводзіцца да наступнага: некалі жыла змяя Рыта, якая жэрла людзей, і яе ніхто не мог перамагчы паасобку. Гэта сталася магчымым толькі згуртаванню людзей. На тым месцы, дзе Рыта знікла пад зямлю, утварыліся новыя паселішчы, што само па сабе вызначае ўсталяванне космасу над хаатычным пачаткам. Паданне унікальнае наяўнасцю ўласнага імя змяі, якое ўпісваецца ў шэраг імёнаў індаеўрапейскіх супраціўнікаў змеяборцаў і змеепадобных істотаў, звязаных з ніжнім водным светам. Відазмененае імя Урытры, якога забіў Індра дзеля вызвалення рэк, даследчыкі бачаць у імені ўсходнеславянскага Вялеса – праціўніка Перуна. Да гэтага ж кораню ўзыходзіць і імя ведыйскага Варуны – бога першасных водаў і ахоўніка сусветнага закона. Варуна шчыльна звязаны з неаформленым светам патэнцыйнага жыцця, фактычнае ўвасабленне якога мы знаходзім у вобразе Урытры. Акрамя таго, у Рыгведзе прысутнічаюць водгаласы таго, што некалі іншы персанаж быў героем асноўнага міфу і пераможцам змея. Яго імя – Трыта – суправаджаецца эпітэтам "вадзяны" і такім чынам перагукаецца са старажытнагрэцкім Трытонам.

Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што імя Трыты паходзіць ад лічбы "тры", сакральны сэнс якой добра вядомы. Відаць, Трыта вельмі рана быў выцеснены Індрай, бо ён ўзгадваецца ў Рыгведзе ўсяго некалькі разоў. У той час, як у самай блізкай да ведыйскай іранскай міфалогіі Трыта так і застаўся змеяборцам. Уяўны парадокс ("вадзяны" і, відаць, змеепадобны Трыта змагаецца са змеем Урытрай) знікае, калі прыгадаць сцвярджанне выдатнага рускага навукоўца Уладзімера Пропа, што змей можа быць забіты толькі тым жа змеем. Гэтак жа і ў беларускім паданні стары, што накіроўвае людзей, сваёй дасведчанасцю нагадвае шамана або продка, вобразы якіх заўсёды атаясамліваліся з іншасветам, нізам, смерцю, а гэта значыць – са змеямі.

Аднесенасць Рыты да жаночага полу таксама сведчыць аб старажытнасці сюжэта. У сувязі згэтым зазначым, што ў ведыйскіх гімнах раз-пораз узгадваецца імя "маці" Урытры – Дану, хаця пры ўважлівым чытанні стаовіцца зразумелым: яна не маці Урытры ў прамым сэнсе, а хутчэй жаночая назва самога змея.

Тое, што ў беларускім паданні змяю забіваюць агульнымі намаганнямі, таксама адносіць сюжэт у далёкую даўніну, бо ўяўленні пра адзінага героя спарадзіла, бадай, ідэя дзяржаўнасці з яе яскравым іерархічным пачаткам.

Такім чынам, нават павярхоўнае параўнанне беларускага матэрыялу з ведыйскімі тэкстамі дазваляе меркаваць, што ў беларусаў у найменш кранутым выглядзе захавалася ядро праіндаеўрапейскай міфалогіі. Нельга, аднак, і абсалютызаваць беларускую старажытнасць, бо доўгае вуснае існаванне не магло не адбіцца на змесце, а галоўнае, сэнсе і прызначэнні тых ці іншых міфалагічных сюжэтаў і рытуалаў. Але гэтыя змяненні ўсё ж не да такой ступені кардынальныя, як у Ведах, прыстасаваных да рэлігійных патрэбаў пануючых кастаў.

**МАРЫНА КАВАЛЁВА**

# БОГ ПРАЗ РОК І ТЭХНА

**Музычная рэцэнзія**

**Што такое хрысціянская музыка? Для большасці жыхароў Беларусі адказ зразумелы: гэта спевы, якія гучаць у царкве альбо ў касцёле. Гэта значыць традыцыйныя візантыйскі ці грыгарыянскія спевы ці арган. Але – ці можа быць хрысціянскім рок, тэхна, метал?.. Правільны адказ палягае не ў тым, каб назваць стыль. Ёсць форма і змест. І адно другога не заменяе. Таму хрысціянская музыка можа быць і ёсць вельмі разнастайнаё. Галоўнае ў ёй – праславіць Бога. А форма гэтага праслаўлення можа меняцца.**

Убачылі гэта і беларускія хрысціяне. Періамі і да нядаўняга часу адзінымі, ўто выкарыстоўваў розныя накірункі музыкі былі нашыя пратэстанты (прыклад гурт "Новый Иерусалим"). Зраз чарга дайшла, нарэшце, і да беларускіх каталікоў. Тое, што распаўсюджана ва ўсім каталічкім свеце – праслаўленне Госпада з дапамогай сучасных інструментаў і музычных накірункаў – стала рэчаіснасць і ў наша краіне. Першы і вельмі ўдалы прыклад ёсць. "Супольнасць Яна Хрысціцеля" з Мінскага касцёла Святога Роха выспусціла ў 1998 годзе дзве аўдыёкасеты. На першай з іх – "Слаў Ісуса" – моладзь спявае хрысціанскі рок. А другая – "Ісус – мой Госпад" – даказвае, што хрысціянскім можа быць і тэхна. Зараз у касцёл стварыўся і свой гурт – "Супольнасць", удзельнікі якога упэўнены, што аддаваць хвалу Богу можна праз самую розную музыку.

**АЛЯКСЕЙ ШЭІН**

ГРАМАДСТВА

# ЯКІ СЭНС МАЕ СЛОВА "ЖЫЦЦЁ"?

Погляд

**Колькі словаў сказана пра тое, што, страціўшы мову, народ страчвае свабоду, а потым губляе і самога сябе? Шмат, можа нават зашмат. Калі я дадам да гэтага яшчэ і свае аргументы, што зменіцца? Мне давялося чуць і чытаць пра гэта не толькі ў беларускай прэсе, але і ў латышскай і эстонскай, дзе сітуацыю ніяк нельга параўнаць з нашаю. Кожны эстонец і латыш ведаюць і шануюць сваю родную мову. Нам бы іх клопаты!**

Але ж і яны мелі моўную праблему. Праўда, яны разумелі нешта такое, чаго беларусы дагэтуль не хочуць уцяміць. Нехта (здаецца усе ведаюць хто, але ніхто не ведае, хто будзе за гэта адказваць) імкнецца знішчыць апошнюю навучальную ўстанову, дзе абсалютна ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску - Беларускі гуманітарны ліцэй.

Што яшчэ трэба знішчыць, каб усім стала зразумела, што наступным крокам будзе ўжо знішчэнне нацыі, дакладней, таго, што ад яе засталося?

Кажуць, што ў Італіі захаваліся помнікі з надпісамі на этрускай мове, але ж няма нікога, хто мог бы іх прачытаць. Уявіце сабе, што ў бібліятэках усяго свету будуць захоўвацца творы Адамовіча, Караткевіча, Багдановіча і Купалы, але ніхто ніколі іх не раскрые і не прачытае. Атрымліваецца, што жылі яны і пісалі дарэмна - што жылі, што не жылі, як жывуць сёння Быкаў і Гілевіч, перакладчыкі на нашую мову "Уліса" і Бібліі, выдаўцы той газеты, што вы трымаеце зараз у руках. А ці не дарэмна існуеш ты, чытач гэтых радкоў? Гэта ўжо занадта, скажаце вы?

Але ж! Вы чытаеце на мове, якая ў хуткім часе можа стаць мёртвай. І не такой, як лаціна, якую яшчэ нехта вывучае ва універсітэтах і семінарыях, а сапраўды мёртвай, як мова халдзееў, этрускаў, яцвягаў, прусаў...

Кім будуць нашыя нашчадкі? Можа, "славянамі"? Пэўна што. Толькі ніхто не бывае проста "славянінам", кожны славянін - або серб, або чэх, або паляк... Некаторыя славяне - беларусы, а калісьці яшчэ былі і славянеліцвіны, калі можна верыць ушанаванаму сярод рускамоўных славянаў "негру" Пушкіну. А вось што цікава - кожны беларус, якога не турбуюць пытанні мовы, нацыі і дзяржавы, дакладна ведае: нават калі беларуская нацыя знікне з твару Зямлі, персанальна кожны былы "беларус" застанецца жыць. Менавіта той, хто так мяркуе, застанецца жыць абавязкова, і ў тым новым жыцці не будзе занадта турбавацца пра лёс той нацыі, з якой паходзіць маці, што яго нарадзіла. Так, усе мы, сённяшнія беларусы, застанемся жыць як прадстаўнікі біялагічнага віду homo sapiens, нават калі беларуская нацыя загіне. І таму мы так спакойна назіраем, як некаторыя беларускія дон кіхоты зноўку кідаюцца ў бойку са змрочнымі асілкамі, якія насамрэч зўяўляюцца "ветранымі млынамі".



*Сам сабе цэнзар*

Лёгка можна зразумець, што ёсць сапраўднай каштоўнасцю для тых, хто так разважае, а што ёсць вартасным для дон кіхотаў? Вядома ж: Радзіма, свабода, уласная годнасць і гонар, праўда, спадчына продкаў, клопат пра жыццё і дабрабыт нашчадкаў. Усё тое, чаму навучаюць у школе, пра што гавораць класікі сусветнай літаратуры, у тым ліку і беларускай. Але ж гэтыя словы ўжываюць не толькі дон кіхоты, а таксама і "здравомыслящие белорусы", дый нават супраціўнікі дон кіхотаў. Як жа сталася так, што розныя бакі ў актыўным грамадскім супрацьстаянні карыстаюцца аднымі і тымі ж каштоўнасцямі, гэтаксама як і абыякавыя назіральнікі, і называюць іх аднымі і тымі ж словамі? Давайце падыдзем да гэтага крыху з іншага боку.

Ёсць меркаванне, што яшчэ да таго, як народ страчвае сваю мову, яна ўжо не выконвае самых важных для чалавека функцый. На ёй ужо нельга выказаць сапраўдную думку, нельга адрозніць добрае ад дрэннага, нельга накіраваць чалавека на ўчынак. Вы запытаеце, навошта ж яна такая, ці можа існаваць такая бязглуздая мова наогул? Выдатое, што так.

Такая зўява мае назву "навамова" паводле яе першаадкрывальніка Дж.Оруэла. Праўда, першаадкрывальнікам ён можа лічыцца толькі ўмоўна, бо задоўга да зўяўлення ў 1948 годзе рамана "1984" гэтую "навамову" стварылі ў СССР, спачатку на аснове расейскай мовы, а потым распаўсюдзілі на іншыя "языки народов СССР". "Навамова" вельмі падобная да той жывой і сапраўднай, з якой была ўтвораная, толькі вельмі "атручаная", як назваў яе аўстрыйскі эканаміст і філосаф Ф.А. Хаек.

Вось прыклад. На нармальнай мове белае гэта белае, чорнае гэта чорнае, мір гэта мір, вайна гэта вайна. А на "навамове" Оруэла вайна гэта мір, праўда гэта хлусня і гэтак далей. У краіне Акіяніі з рамана "1984" установа, якая праводзіла рэпрэсіі, учыняла жорсткія допыты і палітычныя забойствы, называлася "Міністэрства кахання", а адказнае за штодзённы дэфіцыт - - "Міністэрства дабрабыту", прапагандысцкая машына хлусні -- "Міністэрства праўды". Гэта ж мастацкі твор, фантазія, -- гаворыць "здаровы сэнс", -- у сапраўдным жыцці такога не можа быць, усе ж бачаць хлусню. Але ўзгадайце наступныя факты і патлумачце, чаму "святам незалежнасці" называецца зусім іншы дзень, а не той, калі краіна атрымала незалежнасць? Можа, гэта дробязь? Тады чаму "айчынай" на Беларусі называюць не сваю краіну, а імперыю, якая ўжо не існуе, а "айчыннымі" лічаць мясцовасці і тавары суседняе дзяржавы? Заўважце, не абы якой краіны. Ужо ніхто не называе "айчыннымі" Карпацкія горы, а вось Ціхаакіянскі флот называюць. Ці, напрыклад, "Воплі Відаплясава" -- гэта замежны рок, а вось Алег Газманаў -- гэта "айчынная" эстрада.

Чаму слова "рэспубліка" ў нашай мове выкарыстоўваецца не ў сэнсе дзяржаўнага ладу, а ў якасці назвы тэрыторыі? Чаму яно аднолькава тычыцца як Беларусі, так Якуціі і Чувашыі? Чаму чыноўнікі, прызначаныя на свае пасады адным чалавекам, называюцца "народнымі абраннікамі"?

Чаму Беларусь называюць праваслаўнай краінай у той час, калі палова вернікаў -- гэта пратэстанты і каталікі, а не менш за палову ад усяго насельніцтва лічаць сябе атэістамі?

Я запытваўся пра гэта ў некаторых беларусаў, і яны адказвалі, што ўсе так прызвычаіліся, і пыталіся ў сваю чаргу: "А што тут такога?"

А тое, што калі мы такім чынам ужываем словы, мы страчваем іх першасны сэнс, а разам з тым і тыя рэаліі, якія яны адлюстроўваюць. І далей. Наш дзяржаўны лад -- не рэспубліка, а тыранія, таму само слова нам непатрэбнае, значыць, можна ўжываць яго дзеля нечага іншага, напрыклад, для азначэння адміністрацыйнай адзінкі тэрыторыі ў імперыі.

Мы страцілі Айчыну. Мы не адчуваем гэтага толькі таму, што наогул не разумеем сэнсу гэтага слова. Цікава, як разумеюць гэтае слова тыя, хто прымае прысягу ў нашым войску? Дзеля якой айчыны яны клянуцца не шкадаваць свайго жыцця? Куды павернуць зброю, калі пачуюць заклік "Радзіма або смерць"? Калі яны не маюць дакладнага адказу на гэтае пытанне, то ў адпаведным выпадку павінны скласці зброю, інакш яны становяцца проста забойцамі.

Вось чым ёсць нашая "навамова". Мы захавалі словы, страціўшы іх сэнс або змяніўшы яго на супрацьлеглы. І чым часцей ужываецца нейкае слова ў "навамоўным" друку, тым далей яно ад першапачатковага сэнсу. Можна прапанаваць адпаведны тлумачальны слоўнік нашай сучаснай беларускай "навамовы". У ім павінны быць такія, напрыклад, часткі:

- словы, якія страцілі сэнс: чалавечая годнасць, правы чалавека, свабода, уласнасць, Айчына, Радзіма, самакіраванне, суд, інфармацыя, адукацыя і гэтак далей;
- словы з процілеглым сэнсам: канстытуцыя -- рэгламент выканання дарučэнняў прэзідэнта; правы -- залежнасць ад "начальніка"; закон - самадурства; незалежнасць -- марыянеткавасць; палітыка -- гвалт і прымус і гэтак далей.
- словы, якія патрабуюць адпаведнага тлумачэння: краіна Беларусь, рэспубліка, парламент, гісторыя, урад і шмат якіх іншых.

Кожны, хто яшчэ здольны бачыць у словах іх сапраўдны сэнс, можа працягнуць гэты спіс і скласці свой уласны слоўнік. Навошта ён вам спатрэбіцца? Каб вы не згубілі сваю ўласную свабоду, каб вы маглі заставацца чалавекам у гэтым кафкаўскім свеце, дзе вас вымушаюць размаўляць на гэтай нялюдскай навамове. Калі папрасіць растлумачыць навамоўны сэнс біблійнага выказвання "Не хлебам адзіным жывы чалавек", вам адкажуць: - гэта відавочна, чалавеку патрэбныя яшчэ "шкварка і чарка". Бо нішто духоўнае, накшталт свабоды або пачуцця нацыянальнай годнасці, у навамове не мае сэнсу.

У старажытным Кітаі жыў знакаміты настаўнік, якога кітайцы дагэтуль не разумеюць, -- Канфуцый. Ён сцвярджаў, што калі словы страчваюць сэнс, народ губляе сваю свабоду. Калі мы хочам захаваць уласную свабоду, мы павінны зразумець, што сапраўдная мова -- гэта апошняя мяжа, за якою свабода ператвараецца ў рабства. Далей адступаць няма куды. Няпраўда, што фізічна мы застанемся жыць, калі загіне беларуская нацыя! Да такой высновы можна прыйсці толькі карыстаючыся логікай атручанай навамовы. У ёй нават слова "жыццё" мае адваротны сэнс. Якое ж гэта жыццё будзе? Хіба зараз -- гэта жыццё, калі мы не адчуваем абразы нацыянальнай годнасці? Няўжо ў нас адабралі сэнс "жыцця" як слова, няўжо мы згубілі сэнс жыцця?

**УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ**

# HOMO SOVETICUS

**Яны і мы**

**Трапляючы ўпершыню ў незнаёмы горад, заўсёды хачу найперш прайсці ягонымі вуліцамі. Цяжкі, выслізганы бясконцай чарадою тваіх папярэднікаў брук пад нагамі, шэрыя камяніцы абапал пакручастых вуліц і цяністыя прысады... Толькі шпацыр дазваляе спазнаць таямніцы, адчуць душу горада, заўсёды адметную і непаўторную.**

Пасля звяртаеш увагу на людзей.

Ідучы вуліцамі старога Шчэціна, углядаешся ў твары мінакоў, стараешся разгадаць іх думкі, эмоцыі, памкненні. Паўз цябе праходзіць шмат людзей: старыя і маладыя, сумныя і шчаслівыя, занепакоеныя і бесклапотныя, яны спяшаюцца па сваіх справах альбо ўвогуле нікуды не спяшаюцца, аднак зусім не звяртаюць увагі на засяроджанага назіральніка. А я міжволі лаўлю сябе на думцы: гэтыя твары ў нечым падобныя. Яны - не савецкія...

Яшчэ ўчора, здаецца, мы ўсе былі звязаныя путамі бальшавіцкага інтэрнацыяналізму і аднолькава дыхалі савецкім паветрам. За мінулыя дзесяць гадоў у Польшчы адбылася неверагодная рэч: homo soveticus, такі непераможны і ўсемагутны савецкі чалавек памёр, знік з усіх сфераў грамадскага жыцця. І раптам аказалася, што крама можа быць не толькі інстытуцыяй для "даставання" таго, што "выкінулі", а ўзорным месцам для выяўлення чалавечай прыязнасці і ветлівасці, што каўбаса -- зусім не сезонны прадукт і можа мець адвольную колькасць гатункаў, гарадскі транспарт - не толькі палігон для высвятлення адносінаў паміж "мужчынамі" і "жэншчынамі", а найхутчэйшы і найвыгоднейшы сродак перамяшчэння, а папера і мыла да "предметов роскоши" не адносяцца і іх прысутнасць у грамадскіх прыбіральнях - зусім не вычварэнне.

Homo soveticus не ёсць з'явою матэрыяльнай, але ладам мыслення, чалавечай свядомасцю, спосабам узаемаадносінаў індывідуума з акаляючым яго светам. Гэта свет скажоных паняццяў і ўяўленняў, далёкі ад аб'ектыўнага светаўспрыняцця. І рэч не толькі ў тым, што носьбіт свядомасці homo soveticus не здольны самастойна прымаць рашэнні і будаваць грамадскае жыццё (яму ўласцівыя толькі статкавыя інстынкты). Чалавек з такой свядомасцю ніколі першым не папросіць прабачэння, не будзе ўсміхацца да мінакоў на вуліцы, не дапаможа іншаму. Замкнёнасць і агрэсіўная самаізаляцыя - адзінае, на што ён здатны.

Едучы цягніком ва ўсходнім накірунку, я аднойчы сустрэну зласліва-стомленага чалавека на падпітку, які будзе правяраць мой пашпарт. І зразумею: я на Радзіме...

**ПЯТРО РАГОЙША**

ЛІТАРАТУРА

# "ДЫЯНЕТЫКА" – ВЫЖЫЦЬ РАЗАМ З ЧАЛАВЕЦТВАМ

**Чалавек і свет**

**Колькі жыве чалавек, ён заўсёды імкнецца перабудаваць сваё жыццё. Аднак варта прызвычаіцца да той думкі, што ідэя ці ідэалогія, якія здольныя сапраўды перайначыць свет і зрабіць яго, прынамсі, прыгажэйшым і больш утульным для жыцця, схаваны ад шырокага кола назіральнікаў.**

Мастацтва і навука, якім наканавана змяніць свет, часта пачынаюцца ў сутарэннях і гаражах, а новая філасофія выкрышталізоўваецца ў кухонных гаворках. Адметнасць апошніх гадоў у тым, што носьбітаў новай свядомасці можна бачыць у прыстойных офісах, яны маюць выпрацаваную метадалогію, вялікую колькасць аддрукаваных з дапамогай сучаснай паліграфіі праспектаў, прэс-рэлізаў, падручнікаў, аудыё- і відэакасеты.

Але да іх насцярожана ставіцца прэса, іх не прызнае адукацыя. Гэта натуральна, бо за матэрыяльныя выгоды звычайна плацяць замежныя фундатары. А іх мэты не заўсёды супадаюць з нашымі патрэбамі. Гэтыя людзі знешне шчаслівыя, адкрытыя, гатовыя дапамагчы, але ўсе яны, ад новых хрысціянскіх рухаў да "Гербалайфа", нечага патрабуюць ад нас. Ім патрэбны наш час, вера, грошы. Якім бы добрым не быў фундатар, ён заўсёды чакае вяртання свайго ўнёску ў той ці іншай форме.

У кожным асобным выпадку трэба звышасцярожна прыглядацца да таго, што прапануюць. З аднаго боку нельга прапусціць новую ідэю, бо яна можа стаць тым выйсцем, якое дазволіць не разгубіцца ў сучасным свеце, а з іншага боку -- уклаўшы душу ў веру, можна замест Бога знайсці зусім не боскага ідала.

Калі паспрабаваць уявіць для сябе шырокі спектр такіх суполак, групаў, дык цэнтральнае месца трэба адвесці "Дыянетыцы" Рона Хабарда. Адна з асноўных мэтаў яго школы -- фізічнае лекаванне чалавека. Акрамя гэтага ёсць яшчэ свая філасофія , царква "Саенталогія", якая ў цэнтр ставіць самаго дасканалага чалавека.

Хабард вядомы перш за ўсё як аўтар фантастычных твораў, ён адзін з буйнейшых аўтараў "залатой эры амерыканскай фантастыкі". Магчыма, ён мае самы вялікі агульны наклад сваіх твораў у свеце -- больш за 100 мільёнаў асобнікаў. Прыхільнікі дыянетыкі сцвярджаюць, што большым накладам у свеце выдавалася толькі Біблія.

Ён уважліва вывучаў веравызнанні розных плямёнаў і народаў, быў спецыялістам у галіне ядзернай фізікі, семіётыкі і псіхалогіі. Напрыканцы саракавых гадоў напісаў "Дыянетыку жыцця" -- вынік шматгадовай працы, якая павінна была дапамагчы чалавеку пазбавіцца фізічных і духоўных пакутаў. Першапачаткова тэкст "Дыянетыкі" распаўсюджваўся ў ксеракопіях і перадаваўся з рук у рукі.

9 траўня 1950 года пабачыла свет першае выданне кнігі. З таго часу яна перакладзена на 22 мовы. Агульны наклад складае больш за 50 мільёнаў асобнікаў. Адразу стаўшы бестселерам, кніга прымушае чалавецтва ўвесь час сачыць за сабою. Яна і дагэтуль займае першыя радкі ў спісах самых папулярных выданняў. Тысячы суполак ва ўсім свеце практыкуюць дыянетыку.



*Прыплылі*

Агульны блок тэкстаў, прысвечаных дыянетыцы, сёння складаецца з 10 кніг, 15 тысяч старонак тэхнічнага кіраўніцтва, аўдыятэка лекцыяў Хабарда змяшчае 6 тысяч запісаў.

Сэнс жыцця Хабард бачыць у імкненні выжыць, што можна зрабіць на некалькіх узроўнях . Першы -- выжыванне дзеля сябе, другі -- праз нараджэнне дзяцей, трэці -- у роднасных групах, чацвёрты -- выжыванне чалавецтва ў цэлым. Абсалютная мэта -- неўміручае ці бясконцае існаванне асобы.

Праблема чалавека Хабарду бачыцца ў наступным: ёсць перашкода, што вымушае яго рабіць няправільныя ўчынкі, а таксама адпаведны механізм. Гэта інграмы -- інфармацыя, якая запісваецца, калі чалавек знаходзіцца ў стане несвядомасці і адчувае фізічны боль. Пасля, калі чалавек атрымлівае падобную інфармацыю ў далейшым жыцці, ён блакуецца і дапускае памылкі.

Пры дапамозе дыянетыкі можна абараніцца ад шкоднай інфармацыі. Сама працэдура вонкава нагадвае гаворку двух чалавек. Той з іх, які жадае пазбавіцца, імкнецца ўзгадаць акалічнасці свайго жыцця, а суразмоўца дапамагае яму гэта зрабіць. Цяжкасць у тым, што узгадаўшы пэўны факт з свайго жыцця, чалавек не можа вярнуцца ў пэўную кропку свайго мінулага.

Мэта другога чалавека -- пры дапамозе пытанняў выявіць перашкоды, якія не даюць аднавіць памяць.

Дзеля гэтага трэба перажыць той стан "бессвядомасці", наноў адчуць боль, які ён адчуў у той сітуацыі, асэнсаваць словы, якія ён тады пачуў, пасля чаго зразумець, якая менавіта праграма і каманда не дазваляла нармальна функцыянаваць мозгу.

Падчас аперацыі чалавек адчувае вялікую палёгку, яму робіцца смешнымі тыя прычыны, якія так моцна раней перашкаджалі. Пасля некалькіх сеансаў ён можа цалкам пазбавіцца інграмаў. Ен стане клірам, а гэта -- нешта накшталт генія і святога адначасова. У гэтым ёсць звышсіла праграмы дыянетыкі, якая з'яўляецца, паводле словаў самога Хабарда, адзінай зброяй, якая можа супрацьстаяць атамнай.

Прыхільнікі дыянетыкі бачаць прычыны сацыяльных і палітычных канфліктаў у інграмах, якія прымушаюць людзей канфліктаваць. Той, хто прайшоў ачышчэнне, паводле Хабарда, "не ведае ніякіх межаў згодна з прыналежнасцю да розных сацыяльных групаў, катэгорыяў дабрабыту, расы, колеру скуры і веравызнання". Такім чынам , калі ўсе палітычныя лідэры і адказныя асобы пройдуць курс ачышчэння "адытынг", то ў свеце знікнуць войны і міжнацыянальная варожасць.

Сістэма выглядае вельмі прывабнай і цікавай. Час ад часу даводзіцца чуць папрокі і папярэджанні ў бок дыянетыкі. Маўляў, яна можа быць выкарыстана як замбіруючая зброя. Аднак такую небяспеку мае любое сістэмнае грамадскае памкненне.

Вопыт практыкі дыянетыкі - (дзесяткі гадзінаў адытынга), прыводзяць да з'яўлення мноства сюжэтаў магчымых інграмных сітуацый. Яны дазваляюць значна разняволіць фантазію, "узгадаць" падарожжы душы па розных планетах.

Таму дыянетыку можна ўспрымаць як постмадэрновы мастацкі твор з мноствам рэдукаваных сюжэтаў, прачытанне якога прыносіць эстэтычную асалоду. Аднак, калі з сотняў прыхільнікаў дыянетыкі хаця б адзінкі здолеюць дасягнуць нечага падобнага да кліра - сістэму можна лічыць вартай увагі.

"Дыянетыка" як магчымы светапогляд і методыка дазваляе значна ўзбагаціць погляд на рэлігію, мастацтва, сацыялогію. Напрыклад, атрымліваецца, што грамадства павінна ўсяляк стымуляваць стварэнне новых словаў, і вельмі карысна перыядычна мяняць мову, на якой гаворыць пераважная большасць. Бо новыя словы і коды не з'яўляюцца носьбітамі інграмаў. Гэтая выснова была б вельмі карысная для прадстаўнікоў новых накірункаў у галінах палітыкі, рэлігіі, мастацтва, навукі.

Варта раскрыць яшчэ адзін сакрэт дыянетыкі. Стану кліру можна дасягнуць у адзін прыём. Адна з галоўных праблемаў людзей нашай цывілізацыі, на думку Хабарда, ва ўсведамленні неабходнасці валодаць рэчамі, каб працягваць жыць. Аднак у гэтым няма неабходнасці. Можна нават не чытаць твор Хабарда, проста ёсць чароўныя словы, якія дазваляюць стаць клірам у адзін прыём: "Будзьце ў пункце, які знаходзіцца ў метры за вашай патыліцай". Паводле словаў Хабарда дасягненне такога стану дазваляе паглядзець на сваё цела і свядомасць як бы з боку і самому выправіць тое, што там магло сапсавацца.

**АЛЕСЬ ТУРОВІЧ**




*FUNDACJA ROZWOJU DEMOKRACJI LOKALNEJ SZCZECIN*

Gazeta została wydana w ramach warsztatów „Dziennikarze dla Rozwoju Społeczeństwa Demokratycznego na Białorusi" organizowanych przez Centrum Szkoleniowe Fundacji Rozwoju Demokracji Lokalnej w Szczecinie we współpracy z partnerami białoruskimi: stowarzyszeniem „Свабоднае Слова" oraz fundacją „Супольнасьць". Projekt jest współfinansowany ze środków Unii Europejskiej - Funduszu PHARE TACIS.

Organizatorzy warsztatów wyrażają swoje podziękowanie dziennikarzom wszystkich szczecińskich mediów za pomoc w opracowaniu i przeprowadzeniu programu zajęć.

Organizatorzy oraz sponsorzy programu nie ingerowali w treść artykułów i nie ponoszą odpowiedzialności za zawartość gazety.



Газета выдадзена ў рамках праекту "Журналісты для развіцця дэмакратычнага грамадства на Беларусі", арганізаванага Centrum Szkoleniowe Fundacji Rozwoju Demokracji Lokalnej w Szczecinie у супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі: Асацыяцыя "Вольнае Слова", Фонд "Супольнасць". Праект фінансаваны са сродкаў Еўрапейскага Саюза - PHARE TACIS.

Арганізатары выказваюць сваю ўдзячнасць журналістам усіх Шчэцінскіх СМІ за дапамогу ў распрацоўцы і правядзенні праграмы заняткаў.

Арганізатары і фундатары праграмы не маюць дачынення да зместу артыкулаў і не нясуць адказнасць за пададзеную інфармацыю, якая змешчаная ў газеце.




This project is co-financed by the Phare and Tacis Democracy Programme, a European Union initiative to help promote democratic societies in the countries of central and eastern Europe, and the New Independent States and Mongolia.




**БЕЛАРУСКАЕ АЛЬТЭРНАТЫЎНАЕ ЧЫТАННЕ**
Галоўны рэдактар: Ягор МАЁРЧЫК
Стыльрэдактар: Пятро РАГОЙША
Карэктары: Юля ДРАНЧУК, Віктар МУХІН, Ларыса Гедэмін
Дызайн: дк. Зміцер БАРЫЛА
Ілюстрацыі: Ала АМЯЛЬЧЭНЯ, Глеб КАНУННІКАЎ
Кансультант: Lech GALICKI
Вёрстка: Artur Zasztowt
Надрукавана ў Шчэціне